



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

25 студзеня 2019 года №4 (1239)

18+





! **МЕСЯЦАВЫ КАЛЯНДАР САДАВОДА І АГАРОДНІКА на 2019 год** старонкі 12-13, 15


# Як зменіцца Маладзечна за 10 год, залежыць і ад вас

## У райцэнтры прэзентавалі карэкціроўку генплана: новыя дарогі і школы, дамы не вышэй за 9 паверхаў і новая мяжа горада. Ідзе грамадскае абмеркаванне праекта


старонкі 2-3


Фота Зоі КРУЦКАЙ.






ISSN 1991–7155





Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Маладзечна расшырыцца, будуць а дамы не вышэй за дзевяць паверхаў

МАЛАДЗЕЧНА

**У чацвер, 17 студзеня, адбылася прэзентацыя горадабудаўнічага праекта «Генеральны план Маладзечна. Карэкціроўка».**




Схема новага жыллёвага будаўніцтва.

На сустрэчы з прадстаўнікамі райвыканкама сабралася крыху больш за два дзясяткі ўдзельнікаў. Абмеркавалі тэмы жылля, школ і садкоў, дарог і інжынернай структуры.

Выстава праекта працуе ў вестыбюлі Цэнтралізаванай клубнай сістэмы па адрасе: Лібава-Роменская, 71. Пабачыць матэрыялы можна ад 8 да 20 гадзін у перыяд ад 15 студзеня да 8 лютага. Таксама можна іх знайсці на сайце райвыканкама ў раздзеле «грамадскія абмеркаванні».

### Што такое генплан

Гэта праектны дакумент, у якім паказваюць, як плануюць забудоўваць тэрыторыю, дзе што размясціць і якім паўстане населены пункт праз пэўны час.

Прадстаўлены да абмеркавання дакумент складзены ў два этапы. Першы – планы да 2025 года. Другі – да 2030.

### Межы горада

Горад уваходзіць у ланцуг гарадоў, якія акружаюць сталіцу. Горад у бліжэйшым акружэнні Мінска. Па ролі рассялення адносіцца да гарадоў нацыянальнай значнасці.

Шэраг населеных пунктаў мае агульную мяжу з райцэнтрам. Іх на першым і другім этапах плануюць уключыць у праектную гарадскую рысу.

### Насельніцтва

Цяпер у Маладзечне жыве 95,23 тысячы чалавек.

Цягам першага этапу яно павялічыцца да 101,9 тысячы. Павелічэнню пасадзейнічае далучэнне Насілава, Дамашоў, Баяраў, Цюрлёў, Вытрапаўшчыны, Мянютак, Куклаўшчыны, Рагазаў і Мыслевічаў.

На другім этапе насельніцтва павялічыцца да 104 тысяч – далучыцца Каледзіно, Адамавічы, Гаравіны, Селівонаўка.

### Дарогі

Пераход ад пешаходнай вуліцы да чыгуначнага вакзала ў час падрыхтоўкі да Дажынак планавалі зрабіць падземным. Тады задуму не ажыццявілі. Аднак пераход крыху змянілі: пабудавалі астравок, за які заязджаюць аўтобусы на прыпынак, памянялі святлафоры. Штосьці яшчэ мяняць у гэтым месцы не збіраюцца – на ўчастку чыгункі зрабілі маштабную працу па электрыфікацыі да Дзяржаўнай мяжы.

Перад Дажынкамі доўга спрачаліся, ці змогуць увасобіць паўднёвы абыход райцэнтра, стварыць новую дарогу, якая ахапіла б горад на поўдні. Не змаглі. Мяркуюць, што да 2025 года паўнавартасна абысці горад не змогуць. Таму давядзецца паралельна з будаўніцтвам жылых кварталаў ствараць ва ўнутранай сетцы вуліц перамычкі і зрабіць двухузроўневы вузел на скрыжаванні з накіраваннем Маладзечна-Ліда.

Каля «Каларыту» горад утрымлівае ад забудовы створ, каб ён у будучым вырашыў многія транспартныя пытанні. Плануецца тут зрабіць вузел з тунэльным пераходам пад дарогай, каб без перашкод трапляць на Янкі Купалы. Дублёрам будзе дарога па вуліцы Астрожскага, якая стане магістраллю агульнагарадскога значэння.

Каб пазбегнуць транзіту праз горад, запраектаваная абходная магістраль на Вілейку з бліжнім і дальнім варыянтам абходу. Гэта разгрузіць цэнтр і палепшыць экалагічную абстаноўку. Праз Рагазы ўжо пракладзены пачатак малога кальца.

Новыя дарогі зробяць Лясныя больш даступнымі. Па-першае, будзе абыход. Па-другое, прыбяруць чыгуначны пераезд. Пажарныя машыны і «хуткая дапамога» губляюць жыццёва вырашальны час на пераездзе. Генплан гэту праблему вырашыць яшчэ і дадатковым пажарным дэпо. Яшчэ адно пажарнае дэпо будзе ў Насілаве.

### Інжынерныя сеткі

У Маладзечне пабудуюць шэсць закрытых ачышчальных збудаванняў ліўневых сцёкаў. Тады чыстая вада будзе скідвацца ў натуральныя дрэнажныя канавы і раку Маладачанку, з якой – ва Ушу.

Горад забяспечаны водазаборам. У суткі Маладзечна спажывае 23 500 кубоў добрай прэснай вады. Рэканструяваць станцыю трэцяга пад'ёму – задача на бліжэйшыя дзесяць год. Таму будзе рэканструкцыя двух вадаводаў-пяцісотак, якія пойдуць на поўначную частку.

Гаспадарча-фекальная каналізацыя патрабуе рэканструкцыі, якая таксама запланаваная.

**За перыяд горад прырастае на 30% плошчы, а па насельніцтве дасягне 104 000. Цяпер Маладзечна мае нізкі працэнт забяспечанасці жылой плошчай – толькі 23 квадраты на чалавека. Пасля першага этапу забяспечанасць дасягне 26,8, пасля другога – 28,3.**

Цяпер 10% насельніцтва стаіць ў чарзе на жыллё. Таму плануюць забудоўваць дзве вялікія пляцоўкі, сярод якіх «Горад-Сад» у раёне Здземялева. Гэта новы мікрараён, дзе паўстануць дамы на пяць і дзевяць паверхаў. Да яго спатрэбіцца падвесці ўсе неабходныя сеткі. Паміж міні-ЦЭЦ і асноўнай кацельняй зробяць перамычку для закальцоўкі дзвюх крыніц. Гэтыя дзве крыніцы цяпла закрыюць патрэбу жылой забудовы. Дзве неэфектыўныя кацельні зачыняць.

### Уша

У генплане стаіць задача захаваць рэчкі Маладачанку і Ушу. Паўночная тэрыторыя падбалочаная, і там кепская сітуацыя з грунтавымі водамі.

Мяркуецца, што зона пляжа на поўначы адбудзецца.

### Дамы

Дзе будаваць новае жыллё – гэта пляцоўка для працы грамадскасці, сказалі ў размове прадстаўнікі выканкама. Сіламі аднаго выканкама тут не справіцца. Можна пісаць лісты вышэй, каб выдзелілі пад гэту мэту зямлю.

Пляцоўкі, дзе будуць ставіць дамы, – паўднёва-ўсходні раён, каля паўночных могілак – гэта гарадскія землі. У гарадскую рысу ўвойдуць новыя тэрыторыі з вёсак. Але там ёсць землі сельскагаспадарчага прызначэння, якія праекціроўшчыкі мяркуюць адвесці пад забудову. Зацверджаны праект рэканструкцыі Бухаўшчыны.

Некалькі год ішлі размовы, што ў Маладзечне можа паўстаць 14-павярховік. Аднак усё ж у бліжэйшай будучыні гэтага не адбудзецца. **Аляксандр Лукашэнка** сказаў, што ў гарадах з такім насельніцтвам, як у Маладзечне, не варта ставіць дамы павышанай павярховасці. Так што вышэй за дзевяць паверхаў дамы не паўстануць.

Раёну давялі лічбу ў 70 тысяч квадратных метраў жылля, якое павінны пабудаваць за два гады. Летась яго здалі 15 тысяч квадратаў. Такую задачу давялі, таму што ў райцэнтры каля 11 тысяч чалавек стаіць у чарзе на жыллё.

Начальнік аддзела архітэктуры **Святлана Хрусталёва** на пытанне, як будуць дасягаць такой амбітнай планкі, сказала, што цяпер абіраюць пляцоўкі пад будоўлю.

У мікрараёне па Янкі Купалы плануюць пабудаваць жылля на 25-30 тысяч квадратаў. Сёлета архітэктура распрацоўвае дэталёвы план, заказвае акты выбару зямельных участкаў і пачне праектаваць. Але там ёсць пытанні па цеплазабеспячэнні. Калі план узгодняць, звернуцца да Мінскэнерга, каб на той мясцовасці запраектавалі цепласеткі.

## СПАЧУВАННЕ

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» смуткуе з прычыны заўчаснай смерці сябра газеты грамадскага актывіста з Вілейкі **Уладзіміра Архіпавіча Малерчука.** У нашай памяці светлы вобраз гэтага чалавека, які аддаваў усяго сябе без астатку людзям, застанецца назаўжды.

Выказваем самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім Уладзіміра Архіпавіча, сябрам і паплечнікам.

# новыя дарогі і школы,



Начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Святлана Хрусталёва.





Удзельнікі грамадскага абмеркавання.

Калі праект пройдзе экспертызу, сёлета пачнуць будаваць дом за «Яшмай». Будуюць дом па вуліцы Канстанцыі Буйло. Фірма «Прафесійны мантаж» выкупіла будынак комплекснага прыёмнага пункта, дзе паставяць трохпавярховік. «ЧысцьБау» будуе 72-кватэрны дом у шостым мікраараёне.

Пачынаюць праектаваць дом па вуліцы Садовай на Лясных.

На рэчавым рынку па Міру была думка пабудаваць жыллё. Але выканкам адмовіў – тут прамысловая зона. Улада прапануе гэту тэрыторыю пад грамадскае прызначэнне і шукае інвестара.

## Школы

За 15 год пабудуюць дзве школы і пяць дзіцячых садкоў.

Узвесці школы мяркуюць у 9 і 11 мікраараёнах. У 10-м – паліклініку.

## Калгасны рынак

Вакол рынку шмат аб'ектаў нерухомасці, якія камусьці належаць. На «Спадарожніку» новы аб'ект мае статус рынку – каб гандляваць у больш зручных умовах, пад дахам. Гаспадарам неабходна кампенсаваць гэту нерухомасць, што пойдзе пад знос. Таму горад шукае на аб'ект інвестара. Вырашылі, што там будзе шматкватэрная жылая забудова з аб'ектамі грамадскага карыстання на першым паверсе.

– Рынак не адпавядае ніякім нормам, – кажа галоўны архітэктар. – Ні санітарным, ні экалагічным, ні тэрыторыя, ні тое, што адбываецца ў дварах каля яго. Крыху напружанасць знізілася, калі зрабілі паркоўку.

ЗАГС хочуць размясціць у больш зручным месцы. Разглядаюць дзве пляцоўкі – замест паркоўкі ля Цэнтральнай плошчы або паміж Палацам культуры і будынкам РВЭС.

Выязджалі аглядаць трухлявыя дамы – на Янкі Купалы, Бухаўшчыне, Лібава-Роменскай. Ад іх горад будуць вычышчаць. А пляцоўкі ці прадаваць з аўкцыёна, ці прапаноўваць тым, хто стаіць ў чарзе на жыллё.

## Замчышча

У выканкам звяртаюцца з ініцыятывамі, але пакуль на гістарычнай пляцоўцы не змаглі нічога ўвасобіць. Само замчышча на землях сельскагаспадарчага прызначэння. А з іншага боку, планавалі ўладкаваць паркоўку, паставіць інфармацыйны шчыт. Пакуль на гэтым усё спынілася.

## Вуліца стрыт-фуда

**– Як выканкам ставіцца да маладзевай ініцыятывы «Вуліца стрыт-фуда»?**

– Вельмі добра, – адказала Хрусталёва. – Каманда выйшла на дэпутата **Жаўняровіча**. Я яму патлумачыла, з чаго пачынаць, дала кантакт архітэктара. Яны робяць эскізы. Хочуць рэарганізаваць рух транспарту, я патлумачыла, што можна рабіць.

**– Часам глядзіш на Вілейку, у іх столькі розных праектаў. Чаму ў нас не так багата?**

– Напэўна, не хапае ініцыятывы ад саміх людзей. Гадамі звяртаюцца «дайце мне добраўпарадкаванне». У чым праблема? Выйдзіце ў двор, зрабіце для сябе. Некаторыя ж прыходзяць у домакіраўніцтва «мы хочам зрабіць тое і тое ў двары» – калі ласка, мы толькі вітаем. Людзі, збярыцеся і выйдзіце ў свой двор, прыбярыце.

## Пра што пыталіся маладзечанцы

Удзельнікаў хвалявалі розныя пытанні. Хтосьці хваляваўся за добраўпарадкаванне ў двары, іншы – што ў іх двары плануюць узвесці новы дом, а месца і так не хапае. Некаторым было важна, дзе будуць новыя дамы, садкі і школы, як развернуцца новыя дарогі і масты, што стане з калгасным рынкам, якім жа чынам будуць скарачаць чэргі на жыллё.

Некаторыя крытыкавалі, што гадамі не змяняецца выгляд Замчышча. А камусьці было незразумела, чаму толькі адзін бераг Ушы трапляе ў гарадскую мяжу – парадак будзе толькі на ёй. Была заўвага, што новы дом ля парку зусім не ўпісваецца ў тым месцы.

## Як паўплываць на генплан

Заўвагі і прапановы па праекце можна да 8 лютага накіраваць у Маладзечанскі райвыканкам па адрасе: 222310, Маладзечна, вуліца Віленская, 6. Або на электронную скрыню **molrik@molodechno.minsk-region.by**. Лісты разгледзіць архітэктурна-горадабудаўнічы савет, сфарміраваны Мінскім абласным выканкамам.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.01 | 24.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1556 | **2.1539** |
| Еўра | 2.4582 | **2.4471** |
| Злоты, 10 | 5.7318 | **5.7064** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2282 | **3.2489** |
| Грыўня, 100 | 7.6923 | **7.7276** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **16.01** | **23.01** |
| Еўра | 2.4480/2.4730 | **2.4350/2.4550** |
| Долар ЗША | 2.1520/2.1720 | **2.1500/2.1680** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **16.01** | **23.01** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,95 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,60 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,05 | **1,90** |
| Агуркі, 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Бульба, 1 кг | – | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | – | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 4,00 | **4,80** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,00 | **5,00** |
| Ананас, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,40 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,20 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,60 | **3,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,00 | **3,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,00 | **3,30** |
| Хурма, 1 кг | 2,80 | **3,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,49** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## На пажары ў жылым доме выратавалі пенсіянера

АШМЯНЫ

20 студзеня ў 20:09 у Ашмянскі РАНС ад мясцовай жыхаркі паступіла паведамленне аб пажары ў двухкватэрным жылым доме па вуліцы Аўдзеева.

Праз некалькі хвілін падраздзяленні МНС прыбылі да месца выкліку. Языкі полымя вырываліся на дах будынка. Пры правядзенні разведкі ратавальнікі ў адной з кватэр на падлозе ў пакоі знайшлі і вынеслі на свежае паветра ў беспрытомным стане 76-гадовага гаспадара.

З дыягназам атручэнне прадуктамі гарэння гаспадара забралі ў рэанімацыю Ашмянскай ЦРБ. Гаспадар другой кватэры на момант пажару быў у ад'ездзе.

Са слоў суседзяў, пацярпелы злоўжывае спіртнымі напоямі. Напярэдадні пажару таксама быў нецвярозы. Агонь знішчыў дах, пашкодзіў перакрыцце, сцены і маёмасць у доме. Прычына пажару ўстанаўліваецца. Асноўная версія – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Паводле сайта МНС.**

## У Красным машына збіла пенсіянерку

МАЛАДЗЕЧНА

На вуліцы 1 Мая ў Красным 64-гадовы мясцовы жыхар на «Фольксвагене-Гольф» наехаў на 78-гадовую жыхарку Маладзечаншчыны.

Жанчына атрымала цялесныя пашкоджанні. Ёй аказалі медыцынскую дапамогу і адпусцілі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Брагу і самагонны апарат знайшлі ў Лазаўцы

МАЛАДЗЕЧНА

У вёсцы Лазавец супрацоўнікі Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы і мясцовы ўчастковы знайшлі ў кустах самагонны апарат і 240 літраў брагі.

Міні-завод размяшчаўся на прысядзібным участку 54-гадовага мясцовага жыхара.

Па словах старшага ўчастковага інспектара маёра міліцыі **Сяргея Амінава**, сваё дачыненне да знойдзенага апарата фігурант адмаўляў. Аднак пазней растлумачыў, што самагон вырабляў для асабістых патрэбаў. Адходы вытворчасці выкарыстоўваў у якасці корму жывёле.

240 літраў брагі захоўваліся ў металічных ёмістасцях, захутаных у мешкавіну. Брагу канфіскавалі і знішчылі. Самагонны апарат дэманталі і канфіскавалі.

Міліцыянеры працягваюць на тэрыторыі раёна рэйдавыя мерапрыемствы па знаходжанні міні-заводаў па выпуску спіртнога.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Начное застолле скончылася панажоўшчынай

Раніцай 15 студзеня ў аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС патэлефанавалі жыхары дома па вуліцы Валынца. Людзі скардзіліся на шум і бойку ў адной з кватэр. На месца здарэння выехалі міліцыянеры.

Па ўказаным адрасе знаходзілася кампанія з шасці чалавек. Устанавілі, што падчас застолля на глебе асабістых непрыязных адносін і немалой колькасці выпітага паміж знаёмымі адбыўся канфлікт, які скончыўся нажавым раненнем.

Па папярэдняй інфармацыі, 40-гадовага маладзечанца адзін раз ударылі кухонным нажом у вобласць брушной поласці. Пацярпелага забралі ў бальніцу.

Па дадзеным факце затрымалі 34-гадовую гаспадыню кватэры. Ёй пагражае да васьмі гадоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## З гандлёвага цэнтра эвакуявалі 125 чалавек

МАЛАДЗЕЧНА

16 студзеня ў 13:40 ратавальнікам паступіла паведамленне аб паху гары ў будынку гандлёвага цэнтра «Модуль». Выкліканыя ратавальнікі ўстанавілі, што адбылося кароткае замыканне электраправодкі без наступнага гарэння ў адміністрацыйным памяшканні на трэцім паверсе. Да прыбыцця падраздзяленняў МНС адміністрацыя аб'екта з будынка эвакуявала 125 чалавек. Пацярпелых няма.

**Аддзел інфармацыі.**

## Бухгалтэрыя Вілейскага РАУС – лепшае падраздзяленне на Міншчыне

ВІЛЕЙКА

У межах калегіі УУС Мінаблвыканкама адзначылі лепшых супрацоўнікаў РАУС Міншчыны.

Лепшым падраздзяленнем па выніках аператыўна-службовай дзейнасці за год прызналі фінансавае падраздзяленне – бухгалтэрыю Вілейскага РАУС. Галоўны бухгалтар – **Інэса Аўсянік**.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**




На месцы здарэння.

# Кіроўца на МАЗе збіў дарожны знак, бетонны парапет і перакуліўся

МАЛАДЗЕЧНА

**Як расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ Сяргей Бартош, аварыя здарылася 22 студзеня каля дзевяці гадзін вечара.**

На момант ДТЗ у кіроўцы былі прыкметы алкагольнага ап'янення.

58-гадовы маладзечанец ехаў на МАЗе-55-51 па вуліцы Віленскай у накірунку Вялікага Гасцінца.

Недалёка ад АЗС-72 «Лукойл» падчас пад'ёму на пуцеправод кіроўца наехаў на дарожны знак і бетонны парапет. У выніку МАЗ упаў на паласу сустрэчнага руху. Кіроўцу з траўмамі забралі ў рэанімацыю Маладзечанскай ЦРБ. Па словах **Сяргей Бартоша**, раніцай 23 студзеня мужчыну ўжо перавялі ў аддзяленне траўматалогіі.

МАЗ належыць адной з арганізацый Маладзечна.

ДАІ праводзіць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ДАІ шукае сведкаў аварый у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Сведкаў некалькіх аварый, што здарыліся ў Маладзечне цягам 2018 года, шукае Маладзечанская ДАІ

У ДТЗ, што адбылося 17 ліпеня каля 15 гадзін, пацярпеў рававраріст. 39-гадовы кіроўца на «Фіяце-Панда» ехаў па скрыжаванні Валынца-Віленская. Тут ён наехаў на 81-гадовага раварыста.

Яшчэ адно здарэнне адбылося 14 лістапада на Вялікім Гасцінцы.

Кіроўца на аўто «Мазда-Дэміа» каля шасці гадзін вечара ехала ў бок Смаргоні. Каля дома №13 яна наехала на 53-гадовага пешахода, што пераходзіў дарогу справа налева па ходу руху аўтамабіля.

У пацярпелага – цялесныя пашкоджанні.

26 снежня каля дзесяці раніцы 43-гадовы кіроўца на «Опелі-Віва-ра», рухаючыся па другім кіламетры аўтадарогі Краснае-Чысць у накірунку Краснага, выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з «Фольксвагенам-Пола», што ехаў насустрач.

25-гадовы кіроўца «Фольксвагена-Пола» атрымаў траўмы.

Сведкаў і відавочцаў гэтых здарэнняў просяць звярнуцца ў ДАІ Маладзечнаскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вул. Т. Дудко, 1-18**. Або па тэлефонах: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43 ці 102**.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.**

## Шукалі збітага цягніком мужчыну, а знайшлі толькі след на снезе

ВІЛЕЙКА

Гісторыя пачалася ноччу 12 студзеня ў Куранцы.

Каля гадзіны ночы ў міліцыю патэлефанаваў мужчына, жыхар Маладзечна, і сказаў, што ў Куранцы яго пабіў мясцовы жыхар, распавялі «Рэгіянальнай газеце» ў Вілейскім РАУС.

Міліцыя выехала на месца. Знайшлі таго, хто біў, знайшлі сведак. Толькі вось заяўнік недзе згубіўся. І мабільны тэлефон яго быў недаступны.

Праз некаторы час у міліцыю патэлефанавалі супрацоўнікі вілейскага чыгуначнага вакзала і паведамілі, што цягнік «Мінск-Віцебск», магчыма, збіў чалавека. Машыніст заўважыў яго на ўзбочыне.

Міліцыянеры пайшлі да месца, якое ўказаў машыніст, але там убачылі толькі памяты снег і сляды. Калі пайшлі па слядах, прыйшлі ў лес, дзе знайшлі мужчыну.

Ім аказаўся той самы жыхар Маладзечна, які тэлефанаваў з Куранца. Мужчына быў у стане алкагольнага ап'янення. Расказаў, што ён хацеў дабрацца дамоў і заблукаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне збілі пешахода

Аварыя здарылася 15 студзеня ў 8:30 на 71 кіламетры дарогі Мінск-Калачы-Мядзел, недалёка ад вёскі Абадоўцы Ільянскага сельсавета.

24-гадовы жыхар Пастаў на «Фіяце-Скуда» рухаўся ў бок Мінска і наехаў на 54-гадовага жыхара Вілейшчыны.

Пацярпелы рухаўся па краі дарогі насустрач руху, паслізнуўся і паваліўся на правую частку машыны. З закрытай чэрапна-мазгавой траўмай мужчыну шпіталізавалі. Ён быў без флікера.

**Аддзел інфармацыі.**

# Не кладзіце пад падушку, не давайце дзецям да двух гадоў

## Як правільна карыстацца мабільным тэлефонам

**Сотавай сувяззю мы карыстаемся не так даўно: 15-20 гадоў. Аднак ужо шмат навуковых даследаванняў правялі на людзях і жывёлах. Навукоўцы прыйшлі да высновы, што ёсць рызыкі для здароўя людзей ад бесправадных прылад.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Абысціся без мабільных тэлефонаў мы наўрад ці зможам. Але трэба памятаць аб правілах карыстання імі.

Безумоўна, катэгарычна адмаўляцца ад карыстання мабільных тэлефонаў не варта. Але выкананне наступных нескладаных рэкамендацый дазволіць засцерагчы свой арганізм ад негатыўнага ўплыву сотавага тэлефона.

• Набывайце мабільны тэлефон ці смартфон у афіцыйных дылераў з дакументамі, дзе пазначана, што тэлефон прайшоў сертыфікацыю ў Беларусі ці Расіі;

• аддавайце перавагу новым сучасным мадэлям (у іх меншая магутнасць выпраменьвання);

• у дзяцей да двух гадоў не павінна быць кантакту з гаджэтамі;

• для трох- пяцігадовых дзяцей абмяжуйце карыстанне гаджэтам да адной гадзіны;

• для 6-18-гадовых – да дзвюх гадзін;

• не гаварыце па мабільным тэлефоне больш за тры хвіліны бесперапынна і больш за 30 хвілін на дзень;

• перапынак паміж званкамі павінны складаць не менш за 15 хвілін;

• карыстайцеся правадной гарнітурай, гучнай сувяззю;

• насіце мабільны тэлефон у сумцы, кішэні вопраткі ці ў руцэ. Не варта мужчынам насіць мабільнік на поясе, а жанчынам на грудзях;

• не карыстайцеся тэлефонам у транспарце;

• выключайце тэлефон там, дзе яго выкарыстанне забароненае;

• не кладзіце тэлефон пад падушку, калі кладзяцеся спаць, лепш пакіньце яго ў іншым пакоі;

• не размаўляйце па тэлефоне за рулём;

• не падносьце тэлефон да галавы адразу ж пасля націску кнопкі пачатку набору нумара. У гэты момант электрамагнітнае выпраменне ў некалькі разоў большае, чым падчас гутаркі;

• не трымайце трубку ўвесь час каля аднаго вуха;

• падчас гутаркі трымайце апарат трыма пальцамі і абавязкова за ніжнюю частку;

• для гутаркі абірайце месцы з найлепшым сігналам. Адмоўцеся ад гутарак у метро, аўтамабілях, электрычках, ліфтах і іншай зачыненай прасторы, а ва ўмовах няўстойлівага прыёму зусім устрымаецеся ад перамоў;

• не варта карыстацца тэлефонамі цяжарным жанчынам, людзям з неўралгічнымі хваробамі, тым, хто мае праблемы з памяццю і сном;

• чысціце тэлефон раз на тыдзень з выкарыстаннем мяккага сродку для дэзінфекцыі.

**Кацярына ЯРАВІКОВА,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы.**

# «Надзея» ў маім жыцці

## Дзіцячы аздараўленчы цэнтр на Вілейшчыне пачынае конкурс да свайго 25-годдзя

ВІЛЕЙКА

**Сёлета спаўняецца 25 год дзіцячаму аздараўленчаму цэнтру «Надзея» на Вілейшчыне. У межах мерапрыемстваў, прысвечаных 25-годдзю сваёй дзейнасці, ад 2 студзеня да 1 верасня ў цэнтры праводзяць конкурс «Надзея» ў маім жыцці».**

Конкурс ладзяць на афіцыйным сайце ўстановы **www.nadeshda.by** і на старонках цэнтра ў суполках у сацыяльных сетках – «Аднакласніках», «Укантакце» і «Фэйсбуку».

Хто можа ўдзельнічаць у конкурсе? Па-першае, дзеці, якія былі на санаторна-курортным лячэнні і аздараўленні ў цэнтры ад верасня 1994 да жніўня 2019. Па-другое, дарослыя, якія адпачывалі і лячыліся тут у гэты ж перыяд.

Для ўдзелу ў конкурсе трэба напісаць матэрыял пра тое, якую ролю ў вашым лёсе адыграў дзіцячы цэнтр «Надзея». Напрыклад, знаходжанне тут нейк паўплывала на выбар прафесіі, знаёмстваў і стварэнне сям'і, набыццё пэўных навыкаў і жыццёвых кампетэнцый.

Распавесці пра гэта можна ў артыкуле, апавяданні, вершы або ў звычайным пасце ў сацыяльных сетках. Прыкладзеныя да вашага тэксту фотаздымкі прынясуць дадатковыя балы.

Конкурсныя працы ў электронным выглядзе трэба накіроўваць на e-mail: center@nadeshda.by або непасрэдна на сайт www.nadeshda.by праз раздзел «Водгукі» з паметкай «На конкурс». Ёсць патрабаванні да аб'ёму матэрыялу – да дзвюх старонак фармату А4.

Працы, якія ўхваляць сябры журы, арганізатары размесцяць на сайце і сваіх афіцыйных старонках у сацыяльных сетках. Пераможцаў чакаюць дыпломы і памятныя падарункі.

Журы падвядзе вынікі і размесціць інфармацыю пра пераможцаў на сайце і суполках у сацсетках да 9 верасня 2019 года.

Лепшыя працы выкарыстаюць у прэзентацыі ў рамках святочных дзён 23 і 24 верасня.

Не забудзьцеся пазначыць дадзеныя пра сябе: прозвішча, імя, узрост (на дадзены момант і на момант наведвання цэнтра), цяперашні адрас і той, па якім вы жылі, калі прыязджалі адпачываць у «Надзею». Калі памятаеце, пазначце год адпачынку, клас і нумар групы, у якой былі.

Да 5 верасня журы падвядзе канчатковыя вынікі, вызначыць першае, другое і трэцяе месцы.

Кантактныя тэлефоны: 8 (01771) 32 6 60; +375 29 665 76 31, Тацяна.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейчукі выступаюць за стварэнне ў горадзе станцыі для электрамабіляў

Пад адпаведнай петыцыяй ужо падпісаліся 36 чалавек.

У тэксце петыцыі кажуць аб тым, што бліжэйшая зарадная станцыя ёсць толькі ў Заслаўі і Ашмянах (каля 75 кіламетраў).

Звяртаюць увагу, што праз горад праходзяць трасы з вялікай колькасцю машын і што ў турыстычным рэгіёне Вілейка-Нарач-Браслаў няма ніводнай зараднай станцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хто з рэгіёна стаў Чалавекам года Міншчыны

Абраных узнагародзілі ў Маладзечне 18 студзеня, перадае БелТА.

Сярод узнагароджаных былі прадстаўнікі Маладзечаншчыны і Вілейшчыны. Гэта епіскап Маладзечанскі і Стаўбцоўскі **Павел**, дырэктар завода «Рамбыттэхніка» **Арцём Русакевіч**, трактарыст-машыніст з Палачанаў **Аляксандр Маскалевіч**, кіроўца Вілейскага аўтапарка **Уладзімір Кебец** і дырэктар ДРАЦ «Надзея» **Вячаслаў Макушынскі**.

Настаўніка інфарматыкі мядзельскай гімназіі-інтэрната **Вячаслава Саўчыка** таксама адзначылі спецыяльнай прэміяй Мінаблвыканкама «Чалавек года Міншчыны» ў намінацыі «Невытворчая сфера: адукацыя і навука».

**Паводле Белта.**

## Астраўчанку і нарачанца прызналі лепшымі маладымі спецыялістамі сярод выратавальнікаў краіны

АСТРАВЕЦ
МЯДЗЕЛ

Святочнае мерапрыемства, прымеркаванае да Дня выратавальніка, прайшло ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях.

У сваё прафесійнае свята з рук міністра **Уладзіміра Вашчанкі** ўзнагароды атрымалі лепшыя работнікі, паведамляе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Ёсць сярод іх прадстаўнікі рэгіёна. Лепшым маладым спецыялістам у групе «Дзяржаўны пажарны нагляд» прызнаная **Наталля Сторта** з Астравецкага раёна, у групе «Ліквідацыя надзвычайных сітуацый» – **Віктар Плакса** з пасёлка Нарач Мядзельскага раёна.

Уладзімір Вашчанка адзначыў падзячнымі лістамі бацькоў лепшых па прафесіі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Збіраюць грошы для найстарэйшага вяза Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

Пра тое, як жыхар Верхніх Талуёў Маркаўскага сельсавета **Іван Дурэйка** ратуе вяз разам з **Міхаілам Міхалевічам**, мы пісалі раней.

Аднадумцы звярнулі ўвагу, што старадаўняе дрэва сохне. Разлічылі, што яму не хапае вільгаці, бо сажалка каля яго высыхае. Ім дапамаглі ўлады – начальнік Маладзечанскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў** і старшыня Маркаўскага сельвыканкама **Іван Мацэвіч**.

На месцы правялі суботнік, прыбралі тэрыторыю, расчысцілі сажалку, пасадзілі непадалёк алею. Вясной плануюць добраўпарадкаваць тэрыторыю.

За працу ПМК выставіла сельвыканкаму рахунак у 900 рублёў. Яшчэ спатрэбяцца грошы на вясну – каб упрыгожыць тэрыторыю, размясціць лаўкі, паставіць альтанку. У дрэва ёсць дзве сухія галінкі, што размешчаныя пад вуглом у 90 градусаў. Пад вагой лісця яны могуць зламацца. Таму лепш заказаць аўтавышку і акуратна іх спілаваць.

У выніку работ зацікаўленыя людзі хочуць, каб госці маглі наведваць найстарэйшы вяз у Беларусі і адчуць незвычайную атмасферу гэтага месца.

Некалькі месяцаў зацікаўленыя высвятлялі, якім чынам можна сабраць сродкі, каб аплаціць добраўпарадкаванне. Самым зручным спосабам аказалася адкрыць рахунак на фізічную асобу. Гэту працу ўзяў на сябе Іван Дурэйка. Ён адкрыў рахунак для вяза. Калі вы хочаце дапамагчы працягнуць яго жыццё як мага даўжэй, далучайцеся.

Пералічыць грошы можна ў банку.

Разліковы рахунак у беларускіх рублях:

№BY65 AKBB 3014 0000 2132 8612 0601 у ААТ «Ашчадны банк «Беларусбанк» аперацыйная служба філіяла 601».

Адрас банка: Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 13. БІК AKBB BY 21 601, УНП 600198997.

Тэлефон для даведак: (8-029) **667-12-70**, Іван Міхайлавіч Дурэйка.

**Аддзел інфармацыі.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Chrysler Neon, 1995 г.в., кожны дзень на хаду, прадам або абмяняю на хэтчбэк. 2 500 руб., торг. Т. (8-033) 3668181, (8-025) 7639296.*

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в, 1,8 бензін, нядорага, добры стан. Т. МТС (8-029) 5689198.*

• Нісан-Прымера, 1995 г.в., 2,0 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-Меган, 1998 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто, любы стан і год, з любой праблемай. Дорага. Т. (8-033) 6323283.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Мінску, р-н Лошыца, 4 паверх. Т. (8-044) 7908932*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Віленская, 31, агульная 48,7, жылая 28,4, с/в раздзельны, 3 паверх цаглянага дома. Т. (8-029) 8165933.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул.Араздовіча, 3 паверх. Т. (8-029) 2716116.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх цаглянага дома, год пабудовы 1999, агульная плошча – 76, жылая – 40, кухня – 10,5. Дзве лоджыі, драўляныя шклопакеты. Раён «Незалежнасці». Цана 96 тыс. руб. Торг. У 100 метрах – ГБК, двух'ярусны гараж за асобную плату. Т. (8-029) 6610717.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольнай альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• Дом у а.г.Мацькаўцы Вілейскага р-на. Нядорага. Т. (8-029)6110737.*

• Дом у Вілейцы. Т. (8-044) 4757327.*

## ПАСЛУГІ

### НШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*



• «Камп'ютары і спадарожнікавыя антэны». Абслугоўванне. Рамонт. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750 Т. (8-033) 3494488.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-25, рухавік Д-21, касілка, капалка. Т. (8-029) 7892846.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**




**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза. Т. (8-0176) 726332.*

**Іншае**

• Кнігі. Магчымы абмен. Т. (8-029) 5019550.*



### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ ПРАЦУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*

• Масажыст шукае працу. Т. (8-029) 2609392.





# Магчымасць выбару іншага парадку падаткаабкладання для ІП, плацельшчыкаў адзінага падатку

**У 2018 годзе пры ажыццяўленні відаў дзейнасці, названых у п.п. 1.2 – 1.41 п. 1 арт. 296 Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь (далей – ПК), ІП не мелі права ўжываць іншы парадак падаткаабкладання, акрамя адзінага падатку, калі заказчыкамі работ, паслуг з'яўляліся фізічныя асобы (ч. 1 п. 2 арт. 296 ПК).**

Выключэнне было ўстаноўлена для ІП, якія ажыццяўляюць рознічны гандаль пэўнымі таварамі. Такія ІП ужывалі іншыя сістэмы падаткаабкладання пры ўмове, што адзіны падатак за справаздачны перыяд не быў аплачаны. У выпадку выплаты гэтага падатку ІП не маглі перайсці на іншую сістэму падаткаабкладання да канца бягучага падатковага перыяду (п.п. 1.1 п. 1, ч. 2 п. 2 арт. 296 ПК).

Згодна з новай рэдакцыяй кодэкса, з 2019 года ІП, якія ажыццяўляюць віды дзейнасці, што падлягаюць абкладанню адзіным падаткам, маюць права прымяняць іншы парадак падаткаабкладання (п. 5 арт. 336 ПК-2019).

### На заметку

Калі ж ІП выплацяць адзіны падатак за справаздачны перыяд бягучага падатковага перыяду, то яны абавязаныя да заканчэння гэтага падатковага перыяду ўжываць абраны парадак падаткаабкладання (п. 2 арт. 337 ПК-2019).

Разам з тым у выпадку выплаты адзінага падатку за студзень 2019 г. ІП маюць магчымасць перайсці з 01.01.2019 на іншы рэжым падаткаабкладання (спрошчаная сістэма падаткаабкладання – УСН – або агульны парадак). Так, ІП змогуць перайсці на УСН пры адначасовым выкананні дзвюх умоў. Па-першае, іх валавая выручка за студзень – верасень 2018 г. не павінна перавышаць 152 000 рублёў, па-другое, апавяшчэнне аб пераходзе на УСН павінна быць прадстаўленае на ІМПЗ па месцы пастаноўкі на ўлік не пазней за 31.01.2019 (ч.1, 2 п.8 арт.4 Закона ад 30.12.2018 №159-З).

ІП, якія выплацілі за студзень 2019 г. адзіны падатак і якія перайшлі з 01.01.2019 на іншы парадак падаткаабкладання, уносяць змены ці дадаткі ў падатковую дэкларацыю па адзіным падатку за студзень 2019 г. ці за I квартал 2019 года не пазней за 31.01.2019 (ч.3 п.8 арт.4 Закона ад 30.12.2018 № 159-З).

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Аб дэклараванні даходаў фізічных асоб за 2018 год

**Ад 1 студзеня да 31 сакавіка 2019 года інспекцыямі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь праводзіцца кампанія па прыёме падатковых дэкларацый (разлікаў) па падаходным падатку з фізічных асоб за 2018 год.**

Абавязак падаць падатковую дэкларацыю ўзнікае ў плацельшчыкаў, якія атрымалі ў 2018 годзе даходы:

– ад выплатнога адчужэння на працягу 2018 года не завершанага будаўніцтва капітальнага будынка (будынка, збудавання), размешчанага на зямельным участку, які даваўся для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, садаводства, дачнага будаўніцтва, у выглядзе службовага надзела, жылога дома з гаспадарчымі пабудовамі (пры іх наяўнасці), кватэры, дачы, садовага доміка з гаспадарчымі пабудовамі (пры іх наяўнасці), гаража, машына-месца, зямельнага ўчастка, якія належаць ім на праве ўласнасці (долі ў праве ўласнасці на ўказаную маёмасць), калі такое адчужэнне не з'яўляецца другім і больш на працягу 5 гадоў;

– ад выплатнога адчужэння на працягу 2018 года аб'ектаў нерухомасці, якія не адносяцца да вышэйпералічаных (напрыклад, офісныя, гандлёвыя, складскія памяшканні);

– ад выплатнога адчужэння на працягу 2018 года аўтамабіля:

• тэхнічна дапушчальная агульная маса якога перавышае 3500 кг і (або) колькасць месцаў для сядзення, акрамя сядзення вадзіцеля, перавышае 8 (грузавыя аўтамабілі, аўтобусы і інш.);

• тэхнічна дапушчальная агульная маса якога не перавышае 3500 кг і колькасць месцаў для сядзення, акрамя месца вадзіцеля, не перавышае 8, або іншага механічнага транспартнага сродку, **калі такое адчужэнне з'яўляецца другім і больш на працягу 2018 года**.

Разам з тым, даходы, атрыманыя ад выплатнога адчужэння атрыманых у спадчыну аб'ектаў нерухомасці і транспартных сродкаў, вызваляюцца ад падаходнага падатку з фізічных асоб незалежна ад перыядычнасці іх адчужэння на працягу каляндарнага года.

Таксама абавязковаму дэклараванню падлягаюць даходы, атрыманыя ў 2018 годзе:

– ад продажу ці іншага выплатнога адчужэння долі (паю, часткі долі або паю) у статутным фондзе арганізацыі іншай фізічнай асобе;

– ад фізічных асоб, якія не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, ад здачы ў наём жылых і нежылых памяшканняў на агульную суму больш за **6 116** рублёў;

– ад крыніц за межамі Рэспублікі Беларусь (у тым ліку ў выглядзе выйгрышаў);

у выглядзе дарэння ад фізічных асоб, якія не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, у памеры, які перавышае **6 116** рублёў ад усіх крыніц на працягу 2018 года.

Выключэнне складаюць выпадкі атрымання даходаў ад блізкіх сваякоў і асоб, якія знаходзяцца паміж сабой у сваяцкіх адносінах, – вызваляюцца ад падаходнага падатку незалежна ад памеру даходу, атрыманага ў выніку дарэння.

Прыём дэкларацый праводзіцца інспекцыяй Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне па адрасе: г. Маладзечна, вул. Лібава-Роменская, 67, каб. 214. Тэлефон для даведак: 770543.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

## Абяруць Містэра студэнта

МАЛАДЗЕЧНА

Удзельнічаць будуць хлопцы з сярэдніх навучальных устаноў Маладзечаншчыны. Пераможцу абяруць 22 лютага.

Конкурс праводзяць другі год запар. Удзельнікам трэба паказаць свае таленты, мужчынскую сілу, крэатыўнасць, раскрыць свае лепшыя якасці.

Журы вызначыць пераможцаў у наступных намінацыях: «Містэр студэнт», «Віцэ-містэр студэнт», «Містэр Артыстычнасць», «Містэр Крэатыў».

Прадугледзелі і спецыяльную намінацыю «Містэр Інтэрнэт-сімпатыя».

Па выніках пададзеных заявак абяруць пяць канкурсантаў, якія паспаборнічаюць за галоўны тытул.

**Аддзел інфармацыі.**

## Назвалі папулярныя і рэдкія імёны на Смаргоншчыне

СМАРГОНЬ

У 2018 годзе на Смаргоншчыне зарэгістравалі 433 нараджэнні.

Хлопчыкаў нарадзілася 226, дзяўчынак – 207. Ёсць і чатыры двойні.

Сярэдні ўзрост мамы – 28 год, таты – 30.

Самыя папулярныя імёны ў дзяўчынак – гэта Сафія, Дар'я, Ксенія, Мілана.

Хлопчыкам часцей давалі імя Ягор, Арцём, Цімафей, Данііл, Мацвей, Міхаіл.

Сярод рэдкіх імён дзяўчынак – Патрысія, Ніколь, Эліна, Жэнеўева, Адрыяна, хлопчыкаў – Даміян, Дзямід, Леванi, Мірон, Платон, паведамляюць у Смаргонскім райвыканкаме.

Першы запіс аб нараджэнні ў 2019 годзе з'явіўся ў ЗАГСе 2 студзеня. Запісалі дзяўчынку Караліну Юдаву, што нарадзілася ў Смаргоні 24 снежня.

**Аддзел інфармацыі.**

## Школьнік з Нарачы – вучань года Мін598шчыны

У мінулым нумары мы пісалі пра тое, што **Данііл Каган** з Вілейкі стаў вучнем года Мінскай вобласці. Але гэта не адзіны прадстаўнік нашага рэгіёна, што атрымаў такое званне.

Фіналістам конкурсу стаў таксама **Данііл Рудзянкоў** з Нарацкай сярэдняй школы №2, паведамляюць у Мядзельскім райвыканкаме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віляйчук выдаў кнігу пра лёс французскага афіцэра з войска Напалеона




Анатоль Сцебуракa.

Кніга гісторыка, пісьменніка, навукоўцы **Анатоля Сцебуракі** называецца «Лісты да Жазэфіны: ваенныя шляхі французскага афіцэра. 1805–1812».

Асноўнай гістарычнай крыніцай паслужылі лісты французскага афіцэра Шарля-Піліпа Фіта дэ Сусі да сваёй жонкі, якія захоўваюцца ў фондзе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Кніга дэталёва знаёміць чытача з ваеннымі прыгодамі французскага афіцэра, які ўдзельнічаў у шэрагу напалеонаўскіх кампаній 1805–1812 гадоў у Італіі, Аўстрыі, Прусіі, Іспаніі, Партугаліі і Расіі. Пісьмы адтуль утрымліваюць звесткі пра значныя гістарычныя падзеі і вядомых дзеячаў эпохі.

Асаблівае месца ў выданні займае апісанне апошняга года жыцця афіцэра – аповед пра драматычныя ваенныя падзеі 1812 года, якія адбываюцца на беларускіх землях.

Лісты, якія поўняцца любоўю да жонкі і дзяцей, раскрываюць таксама сямейную гісторыю героя. Шарль прасіў Жазэфіну пісаць яму часцей пра тое, як яна яго кахае, бо толькі лісты замянялі сустрэчы з ёй у час расстання.

Манаграфія – вынік супрацоўніцтва беларускага і французскага бакоў, што абумоўлена спецыфікай закранутай у кнізе тэмы. Яе аўтары – **Анатоль Сцебурака**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, і **Франсуаза-Альбярціна Мас**, сябра «Асацыяцыі сяброў архіваў» (Парыж).

Дзяцінства Анатоля Сцебуракі прайшло ў Вілейцы. Сёння тут жывуць яго бацькі.

**Паводле сайта Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь.**

# Фан-клуб «РГ»

Рэгіянальная газета. Rh.by

# Люблю «Рэгіянальную газету» за простыя чалавечыя гісторыі

## Хлопец з Гродна расказаў, чаму чытае нашу газету

**Вы жывяце па-за межамі рэгіёна, але чытаеце «Рэгіянальную газету» ў электронным ці папяровым варыянце? Паведаміце, калі ласка, пра гэта рэдакцыі. Нам будзе прыемна, а вы станеце героем нашага новага праекта. А пакуль – наш першы герой.**



Фота забяспечанае героем публікацыі.

Сяргей Герман з Гродна любіць «Рэгіянальную газету» за гістарычныя матэрыялы і простыя чалавечыя гісторыі.

### Я ж ваш фанат!

Нядаўняя паездка ў Гродна на канферэнцыю па журналістыцы прынесла не толькі прафесійную карысць, а яшчэ падарыла станоўчыя эмоцыі. Гэта і каларытныя вуліцы горада, і мінакі-гродзенцы, якія звяртаюцца да цябе па-беларуску, і атмасферная ўстанова – Цэнтр гарадскога жыцця.

Але найбольш усцешыла і натхніла тое, што сярод гродзенцаў ёсць людзі, якія ведаюць, чытаюць і любяць «Рэгіянальную газету».

– Вы з Маладзечна? – пытаецца прыемны малады чалавек у Цэнтры гарадскога жыцця.

– З Маладзечна, – адказваю.

– Можа, з «Рэгіянальнай газеты»?

– Так…

– Я ж ваш такі фанат!

Вось скажыце, як пасля такога дыялогу не палюбіць Гродна і яго жыхароў ад першага разу і назаўсёды?

### Ашмянскі павет – мая малая радзіма

**Сяргей Герман** жыве ў Гродне, але мае гальшанскія карані. Пасля таго, як скончыў школу, паступіў на гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржуніверсітэта. Вывучаў археалогію.

У сілу асабістай зацікаўленасці і атрымананай спецыяльнасці захапляецца гісторыяй, асабліва лакальнай, і ўсім, што звязанае з Ашмянскім паветам. А ён быў вельмі вялікім у свой час, удакладняе Сяргей.

Яшчэ адно захапленне – генеалогія – гісторыя роду, сям'і – і складанне сваёй уласнай геніялогіі. Акрамя зацікаўленасцей, сумежных з гісторыяй, Сяргей называе добрую літаратуру і музыку.

– Гродзенцам мне назваць сябе складана, – кажа мой субяседнік. – Я маю вялікую і моцную духоўную сувязь са сваёй малой радзімай, бо малой радзімай называю абшары колішняга Ашмянскага павета.

### Любоў, якая доўжыцца некалькі год

Калі ўпершыню пазнаёміўся з «Рэгіянальнай газетай», Сяргей ужо і не можа прыгадаць. Кажа толькі, што «гэта любоў» цягнецца ўжо некалькі год. Калі хтосьці са знаёмых бывае ў Маладзечне, хлопец заўсёды просіць, каб яму ў Гродна прывезлі свежы нумар нашага выдання. Калі ж такой магчымасці няма, чытае наш сайт. Прызнаецца, што можа зазіраць туды некалькі разоў на дзень.

– Папяровы варыянт мне заўсёды чытаць больш прыемна, – адзначае Сяргей. – Але гэта справа густу. Калі ж магчымасці няма, задавальняе і сайт: ён дастаткова зручны і аператыўны.

### Асабліва кранаюць тэксты пра Ашмяны і Гальшаны

Асабліва цікавяць хлопца матэрыялы «Рэгіянальнай газеты», звязаныя з гісторыяй ва ўсіх яе праявах.

– Помніцца шмат добрых тэкстаў. Але асабліва кранаюць тыя, што бліжэй да Ашмянаў і Гальшанаў, – кажа Сяргей.

Распавёў, што «Рэгіянальная газета» чапляе звычайнымі чалавечымі гісторыямі – складанымі, шчаслівымі, сумнымі, вясёлымі, цяжкімі і лёгкімі. А яшчэ тым, што на яе старонках менш так званай чарнухі, здарэнняў і навін, перадрукаваных з інфармагенцтваў.

– Зычу вам мець шмат жаданняў. А яшчэ пішыце больш пра Гальшаны і Ашмяны, – так скончыў нашу гутарку мой новы знаёмы з Гродна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ПАМІЖ КАМУНІСТАМІ І ФАШЫСТАМІ

# «Садралі пазногці і павыдзіралі валасы»

## Якім было жыццё ў ваенны час у ваколіцах Веркаўлянаў. Частка 2

*Працяг. Пачатак у №3.*

ВІЛЕЙКА

**Адразу пасля пачатку вайны ў Хаценчыцах фашысты пачалі ствараць ваенны гарнізон.**



Шыльда ля Веркаўлянаў.

Для будоўлі ўмацаванняў яны выкарыстоўвалі савецкіх ваеннапалонных, якіх да адпраўкі ўтрымлівалі ў недабудаваным касцёле. З навакольных вёсак зганялі мужыкоў. **Івана Карповіча** як адзінага ў акрузе цесляра-спецыяліста першым забралі на будоўлю дзотаў. Матэрыял для іх загадалі браць з касцёла.

### Ад лунінцаў беглі да нямецкіх гарнізонаў

Савецкіх ваеннапалонных, камандзіраў і камуністаў, 11 чалавек, фашысты расстралялі дзесьці пад Мардасамі. Радавых рассялілі ў бліжэйшых вёсках. Старэйшым і адказным за будоўлю быў прызначаны Карповіч малодшы, **Іван**. Гэта прызначэнне сапраўдзе волі для Івана і яго жонкі **Марыі** праз паўтара года скончылася трагічна.

Пасля пабудовы дзотаў і 25-метровага падземнага пераходу, які звязваў адзін дзот з кулямётным пунктам, усталяваным на царкоўнай званіцы, сялян адпусцілі па дамах. А ваеннапалонных немцы ўжо мелі намер адправіць у Раеўку на перавалку.

Умяшаўся псаломшчык **Сцяпан Ляшкевіч**, былы афіцэр царскай арміі, які цудоўна валодаў нямецкай мовай і быў прызначаны перакладчыкам.

**Ляшкевіч нейкім чынам угаварыў нямецкае камандаванне не адпраўляць палонных у лагер, а пакінуць у зоне гарнізона. Сказаў, што не хапае працаўнікоў у вёсках і не збяруць ураджай.**

А значыць, без збожжа застанецца нямецкая армія. Немцы прынялі прапанову, хутка прыйшоў загад «прыпісаць» палонных у вёсках і каб кожны дзень адзначаліся ў камендатуры.

Гэта быў высакародны ўчынак, які выратаваў савецкіх людзей ад лагера. Але ён меў трагічны працяг. Адзін з выратаваных палонных за сваё вызваленне Ляшкевічу аддзячыў чорнай падзякай, стаў забойцам сям'і яго лепшых сяброў. Магчыма, забіў і самога Ляшкевіча.

Гаворка пра 26-гадовага былога радавога чырвонаармейца **Івана Беліка**. Родам ён з Алтайскага краю, у палон здаўся ў пачатку восені 1941. Хаценчыцкая камендатура «прыпісала» ў вёсцы Заельнікі да **Івана Грынкевіча**. Вясной 1942 года з іншымі «прыпіснымі» ваеннапалоннымі сышоў у лес і ўліўся ў сумнавядомы партызанскі атрад «Штурм» Барыса Луніна.

**З цягам часу атрад разросся да брыгады «Штурмавая», якая хоць і ваявала з фашыстамі, але наскрозь была пранізаная анархізмам.**

Пачынаючы з яе камандзіра і заканчваючы радавым партызанам у брыгадзе квітнелі п'янства і разбэшчанасць. Рабаванні, гвалт жанчын і дзяўчат, незаконныя і беспадстаўныя забойствы мірнага насельніцтва, у тым ліку дзетак і нават немаўлят. Усё гэта вымушала людзей пакідаць хаты і шукаць паратунку ў родных бліжэй да нямецкіх гарнізонаў. У падкантрольных лунінцамі вёсках заставаліся лічаныя жыхары, якім не было да каго падацца.

### Нібы прадчувалі лютую смерць

Неяк аднойчы, узгадвае Тамара Васілеўна, пасля чарговай блакады яны ўсёй сям'ёй вярталіся ў Куляшы са сваіх схованак з лясного масіву «Калюгі». Разам з усімі хавалася сям'я Марыі, старэйшай сястры нашай суразмоўцы. У Хаценчыцах Марыя з мужам Іванам папрасілі дзеда Васіля дазволіць сваім дзеткам Аляксандру, Зіне і Яўгеніі з тыдзень пажыць у іх. Сказалі, што самі моцна занятыя.

Марыя з Іванам мабыць штосьці нядобрае ўжо прадчувалі, бо на развітанне моцна абнялі і пацалавалі дзетак, наказалі добра слухацца бабулю з дзядулем. Іван напаследак звярнуўся да цесця, дзеда Васіля, каб той на ўсякі выпадак ведаў, дзе закапанае іх дабро. Пасля сваякі рушылі на Куляшы, а Іван з Марыяй, некалькі разоў азірнуўшыся, падаліся на Пляшчаны. Больш іх жывымі родныя не ўбачылі.

**На наступны дзень Іван з Марыяй прынялі лютую смерць ад партызанскай брыгады «Штурмавая». Іван Белік не рашыўся прымаць непасрэдны ўдзел у расправе, таму што гэта сям'я яго неаднаразова карміла, апранала ды абагравала.**

Забойцы, каб даведацца ў Карповічаў, дзе хаваюць дабро, іх катавалі. У Івана пазрывалі пазногці на нагах, у Марыі павывалі валасы. Пра іх забойства родныя даведаліся праз тыдзень.

### Ад фашыстаў – у лес, ад партызан – у поле

Івана і Марыю хавалі таемна, таму што забойцы забаранялі хаваць тых, каго лічылі здраднікамі.

**Падобнае практыкавалася ў фашыстаў, яны таксама забаранялі здымаць павешаных партызанаў, пакуль тыя не пачыналі ствараць небяспеку.**

Пасля пахавання дзед Васіль, забраўшы ўнукаў і дабро, не знойдзенае забойцамі ў адной яме, паехалі ў Куляшы, далей ад страшэннага месца.

У Куляшы партызаны наведваліся нашмат радзей, затое немцы і паліцаі не давалі расслабляцца. Даводзілася хавацца ад немцаў і паліцаяў у лесе, ад партызан-лунінцаў – у полі. Бо немцы баяліся лесу, а партызаны – адкрытай мясцовасці.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

**25 СТУДЗЕНЯ**

**1804.** 215 гадоў з дня нараджэння **Антона Адынца** (в. Гейстуны, цяпер Ашмянскі раён), беларускага паэта, філамата, перакладчыка, выдаўца. Пісаў на польскай мове. Памёр 15 студзеня 1885 года ў Варшаве.

**1869.** 150 гадоў з дня нараджэння **Адама Гурыновіча** (фальв. Кавалькі, цяпер Мядзельскі раён), беларускага паэта-дэмакрата, фалькларыста, рэвалюцыянера. Адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай паэзіі. Імем паэта названая вуліца ў Мядзеле. Памёр 23 студзеня (4 лютага па новым стылі) 1894 года ў фальварку Крыстынопаль, цяпер Вілейшчына. Пахаваны ля сямейнай капліцы. У вёсцы Золькі на Вілейшчыне пастаўлены мемарыяльны знак памяці Адама Гурыновіча.

**26 СТУДЗЕНЯ**

**1990.** Вярхоўны Савет БССР абвясціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай у Беларусі.

**1994.** 25 гадоў таму ў Маскве памёр **Алесь Адамовіч**, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся 3 жніўня 1927 года. Фільм па яго сцэнарыю «Ідзі і глядзі» трапіў у спіс фільмаў тэлевізійнага шоу «50 фільмаў, якія неабходна паглядзець, перш чым памерці».

**28 СТУДЗЕНЯ**

**1712.** Нарадзіўся **Удальрык Крыштаф Радзівіл**, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, пісьменнік, паэт і гісторык. Цікавіўся механікай, астраноміяй. Сабраў вялікую бібліятэку, ведаў шмат моў. Пісаў вершы. Спрабаваў увесці ў прыдворных тэатрах беларускую мову. Сучаснікі характарызавалі яго як здольнага, вельмі начытанага, але схільнага да авантурызму, дзівака і фантазёра. Не разлічваючы на жаночую ўзаемнасць (сваім выглядам «палохаў жанчын»), загадаў мясцоваму мастаку намаляваць партрэт прыгожай дамы і цэлымі днямі граў на флетраверсе «гімн ў гонар гэтага ідэалу». Маючы пад 50 год, ажаніўся на маладзенькай суседцы, чым выклікаў нянавісць усёй сям'і. Памёр 21 ліпеня 1770 года.

**2002.** У ЗША ў доме для састарэлых памёр **Пётр Манькоўскі**, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Нарадзіўся на Віленшчыне (1916 г.). Падчас вайны выкладаў у беларускай семінарыі ў Вілейцы.

**29 СТУДЗЕНЯ**

**1884.** 135 гадоў з дня нараджэння **Антона Луцкевіча**, грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка, публіцыста, старшыні ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Натхняе прыгажосць родных мясцін, пачуццяў і, канешне, жанчын

## Паэт Мікола Шабовіч – пра дзяцінства, паэзію, працу, каханне

**З паэтам і выкладчыкам Міколам Шабовічам знаёмая з часоў студэнцтва. Мажны, з пшанічнымі беларускімі вусамі, заўсёды ў атачэнні маладых паэтаў, а дакладней паэтак. Бо, як вядома, на філфаку хлопцы – з’ява рэдкая.**



Фота забяспечанае Аксанай ЯРАШОНАК.

Аксана Ярашонак і Мікола Шабовіч на леташняй Міжнароднай кніжнай выставе.

МЯДЗЕЛ

Сёлета 4 студзеня Мікола Шабовіч адзначыў 60-гадовы юбілей. З гэтай нагоды – інтэрв’ю з паэтам.

**– Раскажыце пра вясковае бадзенеўскае дзяцінства, бацькоў. Прыгадайце першыя дзіцячыя ўспаміны.**

– Помню, як «дапамагаў» маме і бабулі ткаць на кроснах. Помню, як на Вялікдзень малымі хадзілі па яйкі. Як тата разам з раднёй і суседзямі сапраўднай талакой будавалі дом. Як за мной пагнаўся суседскі сабака і парваў маё паліто – з тых часоў я пабойваюся сабак. Помню, як да нас у хату прыходзіў наш сусед дзядзька **Косця** і палохаў мяне, што забярэ маму. Я, канешне, гучна плакаў і выганяў суседа з хаты. Як праводзілі ў вёсцы электрычнасць. Помню, як у першым ці другім класе мяне паставілі ў кут, бо развярнуў нейкія дошкі каля маёй першай бадзенеўскай школы, дзе я скончыў два класы.

**– Давайце працягнем пра школу. Вы былі ўзорным вучнем?**

– Наўрад ці я быў узорным вучнем, хаця вучыўся пераважна «на выдатна». Паводзіў сябе, наколькі помню, не на самую выдатную адзнаку. Асабліва ў васьмігодцы. Любіў даваць аднакласнікам нейкія мянушкі, што ім не вельмі падабалася.

**– Былі настаўнікі, якія моцна на вас паўплывалі?**

– Дзякаваць Богу, у мяне былі добрыя настаўнікі. Настаўнік рускай літаратуры Дзягільскай васьмігадовай школы **Аркадзь Смятанка** чытаў па памяці ўсяго «Яўгенія Анегіна», настаўніца беларускай мовы і літаратуры гэтай жа школы **Соф’я Нехвядовіч** і многія іншыя былі прыкладам служэння прафесіі. З нязменнай прыязнасцю, а таксама ўдзячнасцю ўспамінаю і маіх настаўнікаў з Мядзельскай школы. Праз колькі гадоў пасля заканчэння я ім прысвяціў невялікі верш, які прагучаў на вечарыне сустрэчы выпускнікоў у 2006 годзе

**– Першае каханне, першы верш – гэта ж, напэўна, у школе было? Раскажыце.**

– Так, і тое, і другое здарылася, можна сказаць, адначасова. Мяне, васьмікласніка Дзягільскай васьмігодкі, адправілі на раённую алімпіяду па хіміі. А паколькі аўтобус прыпазніўся і ўсе месцы ў кабінеце былі ўжо занятыя, мяне падсадзілі да адной бялявай сімпатычнай дзяўчынкі на першую парту. Я дарэмна імкнуўся даведацца яе імя, з якой яна школы… А мая суседка, мабыць, падумала, што я спісваю ў яе хімію… У гэты ж дзень я напісаў свой першы верш і прысвяціў яго, канешне, ёй, маёй Незнаёмцы: «Все оксиды, кислоты и соли / Реагируют только с тобой». Вось з таго часу і пішу. І не магу здрадзіць любімай тэме.

**– Чаму абралі педагагічны інстытут і філалогію?**

– Пасля заканчэння школы я паступаў на прыкладную матэматыку ў БДУ, здаў на пяцёрку вусны экзамен па матэматыцы. У выніку не хапіла аднаго бала ці нават паўбала. Папрацаваў у калгасе шафёрам. Паспрабаваў паступіць у Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча на спецыяльнасць «журналістыка», але на ўсіх экзаменах атрымаў чацвёркі. У выніку прыехаў у Мінск і падаў дакументы на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта педінстытута. У той час я даволі часта пісаў вершы, і таму гэта спецыяльнасць мне была найбольш блізкай.

**– Як вясковаму хлопцу жылося ў сталіцы?**

– Па-рознаму. Але цікава. На другім курсе я стварыў літаратурнае аб’яднанне «Крокі», мы часта збіраліся, выпускалі свае газеты, выступалі ў школах, на інстытуцкіх мерапрыемствах. Незабыўныя ўражанні засталіся ад нарады кіраўнікоў літаратурных аб’яднанняў у Каралішчавічах у снежні 1980 года, дзе я пазнаёміўся і пасябраваў з многімі літаратарамі, з якімі сябрую і сёння**: Аляксандрам Быкавым**, **Анатолем Аўруціным…** Многіх, на жаль, ужо няма на гэтым свеце. Светлая ім памяць.

**– Чым запомнілася праца ў Шыпках на Вілейшчыне?**

– Быў цікавы калектыў, выдатны, з пачуццём гумару дырэктар **Фёдар Сівы**, яго жонка **Ванда Паўлаўна**. Мой сябра **Мікола Мажуль**. І дзве **Каці, Кірылава і Бажко**, якія ўрэшце сталі нашымі жонкамі.

**– Выкладалі беларускую мову і літаратуру?**

– Не толькі. Часам і фізіку, і хімію, і спевы… Вучняў было няшмат. Здаецца, мы добра ладзілі. У маім класе, дарэчы, усе пісалі вершы. І выдатнікі, і даволі пасрэдныя ў вучобе. Я ў той час нават даў падборку іх твораў у інстытуцкай шматтыражцы «Настаўнік».

**– А як складваліся адносіны маладога настаўніка з вяскоўцамі?**

– Што да вяскоўцаў, то яны з вялікай павагай ставіліся да нас, настаўнікаў. Пры сустрэчы нават здымалі шапкі. На жаль, даўно няма маёй Шыпкоўскай школы. Няма ўжо і Фёдара Міхайлавіча Сівага…

**– Чаму ўсё ж вырашылі пайсці ў навуку?**

– Яшчэ на першым курсе, ведаючы, што я пішу вершы, дэкан факультэта **Леанід Падгайскі** даў мне тэму курсавой працы пра аўтарскія наватворы ў беларускай паэзіі, якая потым паступова перарасла і ў тэму дысертацыі. Быў спачатку прымацаваны да кафедры суіскальнікам, здаваў кандыдацкія экзамены. А калі прафесар **Міхась Яўневіч** запрасіў у вочную аспірантуру, не змог яму адмовіць. І нікольки не шкадую.

Вось ужо 30 гадоў выкладаю родную мову ў сваёй альма-матар, маю больш за 50 навуковых публікацый, у тым ліку манаграфію «Аказіянальныя словы ў беларускіх мастацкіх тэкстах 20-х гадоў XX стагоддзя».

**– Ці ёсць выпускнікі, якімі ганарыцеся?**

– Ёсць, і нямала. Некаторыя працуюць на радыё, тэлебачанні, у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Многія сталі прафесійнымі паэтамі і празаікамі: **Дзмітры Пятровіч, Таццяна Сівец, Яна Явіч, Сяргей Карчыцкі, Ганна Міклашэвіч, Ксенія Шаржановіч, Таццяна Выскварка (Астапчык), Ірына Чарняўская, Вераніка Мандзік**.

**– Выкладчыцкая праца, паэзія, праца з паэтамі-пачаткоўцамі... Як на ўсё знаходзіцца час? Ці не перашкаджае адно другому?**

– Дык у сутках жа 24 гадзіны, не так і мала! А яшчэ вы не назвалі шматлікія выступленні ў бібліятэках, на прэзентацыях, на кніжных выставах, на святах паэзіі ў Вязынцы, на Нацыянальным фестывалі беларускай паэзіі і песні ў Маладзечне, на Днях беларускага пісьменства…

Пакуль адно другому не перашкаджала, а толькі дапамагала. Калі свая паэзія, так бы мовіць, адпачывае, калі радкі не просяцца на паперу, перакладаю іншых. Дасць Бог, пераклады некалі выйдуць асобнай кнігай. А мо, і не адной, бо іх сабралася ўжо больш за пяцьсот.

**– Як вы лічыце, чаму прафесія педагога сёння менш прэстыжная?**

– Для мяне яна не з’яўляецца непрэстыжнай. На бюджэтныя месцы філфака апошнім часам не так і лёгка паступіць, бо ў першую чаргу залічваюць медалістаў і выпускнікоў педкласаў. На астатніх абітурыентаў месцаў, як правіла, не застаецца. А калі прэстыжнасць напрамую суадносіць з зарплатай, то ў гэтым плане ёсць яшчэ над чым працаваць. У першую чаргу, дзяржаве, якая павінна рупіцца пра будучыню нацыі.

**– Што вас натхняе?**

**– Прыгажосць. Прыгажосць мясцін, найперш родных Бадзеняў, прыгажосць людзей, іх адносіны да справы, прыгажосць пачуццяў… І, канешне, жаночая прыгажосць. І не толькі знешняя.**

**– Распавядзіце пра сям’ю.**

– Жонка, два сыны. Усе ў пэўнай ступені звязаныя з настаўніцтвам, як мінімум, пакаштавалі настаўніцкага хлеба. Жонка дык увогуле адпрацавала настаўніцай матэматыкі 32 гады, цяпер на пенсіі.

**– Напэўна, родныя ганарацца вамі?**

– Ці ганарацца, трэба спытаць у іх. Спадзяюся, што я іх не вельмі раздражняю, хаця нярэдка нешта рыфмую і па начах, калі прыходзіць натхненне.

**– Як часта бываеце ў родных мясцінах? Ці засталіся там сваякі, родны дом?**

– Па магчымасці, прыязджаю. Летам бываю ў Бадзенях пастаянна. Адпачываю. Чым магу, дапамагаю маме. Стараюся, каб родны дом не зарастаў травой, таму сябрую з касой, граблямі.

**– Раскажыце пра свае захапленні.**

– Спортам захапляюся ў асноўным па тэлевізары: футбол, хакей, біятлон, тэніс, лёгкая атлетыка… Хаця ў студэнцкія гады паказваў някепскія вынікі на стометроўцы і ў скачках у даўжыню, нават абыходзіў членаў зборнай інстытута. Люблю хадзіць у грыбы, ягады, якіх у маіх родных Бадзенях бывае нямала.

**– А цяпер кароценькі бліц. Любімы колер?**

– Колер неба – блакітны.

**– Любімае жаночае імя?**

– Імя маёй мамы – Серафіма.

**– Любімая страва?**

– Перац, фаршыраваны рысам.

**– Чаго баіцеся больш за ўсё?**

– Лятаць самалётам.

**– Ці ёсць у вас такія вершы, якія вы нікому не паказвалі?**

– Ёсць, амаль палова з напісанага.

Даведка РГ.
Мікола Шабовіч – беларускі паэт, паэт-перакладчык, філолаг і педагог. Нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені на Мядзельшчыне. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі (1998). Кандыдат філалагічных навук (2004), дацэнт (2008). Аўтар тэкстаў песень і некалькіх паэтычных зборнікаў.

**Гутарыла Аксана ЯРАШОНАК.**



# тэлетыдзень

**28 студзеня – 3 лютага**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Галінка дрэва

## Ваш настрой



**Вы бачыце галінку дрэва, але рысунак відавочна незакончаны. Дапоўніце яго неабходнымі, на ваш погляд, дэталямі, але доўга не раздумвайце, рысуйце тое, што першым прыходзіць вам у галаву. Паспрабуйце адлюстраваць на карцінцы ўсё тое, што вы цяпер адчуваеце.**

### Ключ да тэста

• **Калі вы ЯРКА АБВЯЛІ ГАЛІНКУ ДРЭВА** і больш ніякіх дапаўненняў у рысунак не ўнеслі, то гэта гаворыць пра тое, што ў дадзены жыццёвы момант вы чымсьці вельмі моцна заклапочаныя. Хутчэй за ўсё, вашы праблемы звязаныя з вашай прафесійнай дзейнасцю або з вучобай, але не з асабістым жыццём.

• **Калі вы ЦАЛКАМ ЗАФАРБАВАЛІ ГАЛІНКУ ДРЭВА,** то гэта значыць, што вы знаходзіцеся ў дрэнным настроі, вас штосьці моцна знервавала або вывела з сябе. Вы перажываеце і злуецеся, і ваша дрэва відавочна гэта паказвае. **Калі вы да таго ж ДАРЫСАВАЛІ І СВАЕ ГАЛІНКІ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы проста кіпіце ад абурэння і гатовыя выплюхнуць свае пачуцці калі не на вашых крыўдзнікаў, то хаця б на тых, хто падвернецца вам пад руку.

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ НА ГАЛІНЦЫ ДРЭВА ЛІСТОЧКІ,** то гэта значыць, што на душы ў вас цяпер усё спакойна. **Калі БОЛЬШ ЛІСЦЯ АПЫНЕЦЦА ПАД ГАЛІНКАЙ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы схільныя ў дадзены момант да роздуму і аналізу, а не да дзеянняў. **Калі ж ЛІСЦЯ БОЛЬШ ЗВЕРХУ, НАД ГАЛІНКАЙ,** то гэта ўказвае на вашу гатоўнасць актыўна ўзяцца за справу, вы поўныя сіл і прагнеце прымяніць іх на практыцы.

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ НА ГАЛІНЦЫ ЛІСТОТУ, НЕ ПРАРЫСОЎВАЮЧЫ КОЖНЫ ЛІСЦІК ПААСОБКУ,** то гэта значыць, што вы прыкладаеце шмат намаганняў, каб здавацца вясёлым і шчаслівым. Але ў сапраўдны момант вам не хочацца нешта паказваць, вы стаміліся ад уласнай гульні.

• **Калі вы ЗРАБІЛІ АСНОЎНЫ ЎПОР НА КАРУ ГАЛІНКІ,** то гэта гаворыць пра тое, што цяпер ваша працаздольнасць проста дзіўная, не губляйце часу і бярыцеся за справы. У вас усё атрымаецца!

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ НА ГАЛІНЦЫ ПТУШАК ЦІ ЖЫВЁЛ,** то гэта значыць, што вам не хапае жывых зносін, вы хацелі б пагаварыць з блізкім чалавекам, падзяліцца з кім-небудзь сваімі думкамі і пачуццямі. **Калі нарысаваная вамі ЖЫВЁЛІНА БУЙНАЯ,** то гэта трывожная прыкмета – магчыма, вас нешта гняце і мучыць. Як бы там ні было, вы маеце патрэбу ў суразмоўцы.

• **Калі вы нарысавалі на галінцы НЕКАЛЬКІХ ЖЫВЁЛ ЦІ ПТУШАК,** то гэта гаворыць аб вашай разгубленасці і душэўным неспакоі, ваша душа кідаецца ў пошуках прытулку, але не знаходзіць яго. Вашы думкі тоўпяцца, вы не можаце разабрацца ў сабе.





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.05** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30, 16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Д/с «Родовое проклятье».
**10.50** Х/ф **«МГЛА».**
**12.50, 20.00** Т/с **«КАЧЕЛИ».**
**13.55** Т/с **«УБЕЙ МЕНЯ, ИСЦЕЛИ МЕНЯ».**
**17.30** Т/с **«МИСТЕР И ЛЕДИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ГЛАДИАТОР».**

**ВТОРНИК, 29 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 18.50, 21.05, 0.50** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30, 17.20** Т/с **«МИСТЕР И ЛЕДИ».**
**9.00** Д/с «Дорога в школу».
**9.35, 18.55** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мой любимый питомец.
**11.00** Х/ф **«ДОЛГИЙ ПОЦЕЛУЙ НА НОЧЬ».**
**13.00, 19.50** Т/с **«КАЧЕЛИ».**
**14.00** Т/с **«УБЕЙ МЕНЯ, ИСЦЕЛИ МЕНЯ».**
**16.20** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОСОБОЕ МНЕНИЕ».**
**23.30** Х/ф **«АМАЗОНИЯ. ИНСТРУКЦИЯ ПО ВЫЖИВАНИЮ».**

**СРЕДА, 30 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 18.40, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30, 17.10** Т/с **«МИСТЕР И ЛЕДИ».**
**9.00** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.30, 18.45** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.00** «Рисуя Китай».
**10.30** Х/ф **«ОСОБОЕ МНЕНИЕ».**
**13.00, 19.40** Т/с **«КАЧЕЛИ».**
**14.00** Т/с **«УБЕЙ МЕНЯ, ИСЦЕЛИ МЕНЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВОСХОЖДЕНИЕ».**
**23.10** Х/ф **«ЭКСТРАСЕНСЫ».**

**ЧЕТВЕРГ, 31 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 18.15, 21.10, 1.05** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30, 17.35** Т/с **«МИСТЕР И ЛЕДИ».**
**9.00** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.20** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«МАММА МИА».**
**12.45** Т/с **«КАЧЕЛИ».**
**14.00** Т/с **«УБЕЙ МЕНЯ, ИСЦЕЛИ МЕНЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** «Мой любимый питомец».
**16.45** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.05** «Фешн is my профешн».
**20.10** Т/с **«НА ХОЛОДНЫХ КЛЮЧАХ».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«МУМИЯ ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**23.25** Х/ф **«ДРЕЙФ».**

**ПЯТНИЦА, 1 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.00, 0.40** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Т/с **«МИСТЕР И ЛЕДИ».**
**9.00** Д/с «Залюбленная до смерти».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30, 18.00** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«МУМИЯ ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**13.10, 20.00** Т/с **«НА ХОЛОДНЫХ КЛЮЧАХ».**
**14.00** Т/с **«УБЕЙ МЕНЯ, ИСЦЕЛИ МЕНЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.25** «Мой любимый питомец».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**23.05** Х/ф **«СУПЕР-ГЕРОЙ».**

**СУББОТА, 2 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 19.05, 21.15, 1.15** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Малыши».
**8.00** Мультфильмы «Балто».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Искусство-кино «Служебный роман».
**12.10, 19.10** Т/с **«НА ХОЛОДНЫХ КЛЮЧАХ».**
**13.00** Т/с **«УБЕЙ МЕНЯ, ИСЦЕЛИ МЕНЯ».**
**15.00** «Отвечайка».
**15.05** Мультфильмы.
**17.00** Х/ф **«ДНЕВНИК БРИДЖЕТ ДЖОНС».**
**18.50** «Друзья дедушки Марко».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ИЛЛЮЗИИ».**
**23.20** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 16.20, 19.00, 21.05, 23.55** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Малыши».
**8.00** Мультфильмы «Красавица и чудовище».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Рисуя Китай».
**10.30** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**12.40** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**14.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИИ».**
**16.25** «Смотрим всей семьей»: «Элвин и бурундуки».
**17.55** «Отвечайка».
**18.00** «Друзья дедушки Марко».
**18.15** Т/с **«ОНА НАПИСАЛА УБИЙСТВО».**
**19.05** Х/ф **«ИЩУ ДРУГА НА КОНЕЦ СВЕТА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МЕЖДУ ЗВЕЗДАМИ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 ЯНВАРЯ**

**6.40** Х/ф **«ТВОЙ ВЫХОД, ДЕТКА!».**
**8.35** Х/ф **«СПАСИБО ЗА ОБМЕН».**
**10.45** Х/ф **«НЕПРАВИЛЬНЫЕ КОПЫ».**
**12.20** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**14.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2».**
**15.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 3».**
**17.30, 19.20, 22.20** Мажорный лад.
**18.40** Новости БЖД.
**18.50, 19.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**

**ВТОРНИК, 29 ЯНВАРЯ**

**6.40, 7.15, 8.25** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15, 18.40, 21.50** Афиша.
**8.35** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**10.15** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ! 2».**
**11.55** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**13.50** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**15.45** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**17.40, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Мая Радзіма.
**20.20** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**

**СРЕДА, 30 ЯНВАРЯ**

**6.25** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.35** Х/ф **«НЕПРАВИЛЬНЫЕ КОПЫ».**
**10.10** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**11.55** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**13.50** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.05** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**17.50, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 31 ЯНВАРЯ**

**6.45, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Новости БЖД.
**8.20** Х/ф **«ХОЗЯЙКА «БЕЛЫХ НОЧЕЙ».**
**10.20** Х/ф **«ПРАВИЛА ЖИЗНИ ФРАНЦУЗСКОГО ПАРНЯ».**
**12.10** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ».**
**13.55** Х/ф **«СПАСИБО ЗА ОБМЕН».**
**16.05** Х/ф **«ЖЕНИХ».**
**17.50, 22.20** Мажорный лад.
**18.30** Мая Радзіма.
**19.20** Свет души. Костел Св. Иосифа.
**20.20** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**

**ПЯТНИЦА, 1 ФЕВРАЛЯ**

**6.15, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.50** Мая Радзіма.
**10.05** Х/ф **«ТВОЙ ВЫХОД, ДЕТКА!».**
**12.00** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**13.50** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ».**
**15.30** Х/ф **«МАМА ДАРАГАЯ!».**
**17.15, 19.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 2 ФЕВРАЛЯ**

**6.50, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 17.40, 19.30** Мая Радзіма.
**8.30, 18.40, 19.50** Афиша.
**10.25** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ! 2».**
**12.00** Х/ф **«ЗАЖГИ ЭТИМ ЛЕТОМ».**
**13.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ЛИМОНЫ».**
**15.45** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**
**18.15, 21.10** Новости БЖД.
**20.30** Желаем вам.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 ФЕВРАЛЯ**

**6.10** Х/ф **«М+Ж».**
**7.50** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**9.30** Х/ф **«ПЕРСОНАЖ».**
**11.40** Х/ф **«ИМЯ».**
**13.50** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.05** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ».**
**17.45** Х/ф **«ЖЕНИХ».**
**19.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**21.35** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**23.45** Х/ф **«ОПРОМЕТЧИВЫЙ».**

# Месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2019 год

**Месяцавы каляндар згрупаваны па работах у садзе і агародзе, згодна з канкрэтнымі агракультурамі. Улічаныя квадры Месяца, праходжанне Месяцам знакаў задыяка.**

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

| | |
|---|---|
| **ЛЮТЫ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 4, 5, 9, 10, 18, 19 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 13, 14, 15, 16, 17, 28 |
| Капуста ўсіх відаў | 6, 7, 8, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 6, 7, 8, 11, 12, 16, 17, 20, 21 |
| Памідоры, баклажаны | 6, 7, 8, 11, 12, 16, 17 |
| Перац салодкі | 6, 7, 8, 11, 12, 16, 17 |
| Перац горкі | 6, 7, 8, 11, 12, 13, 14, 15, 20, 21 |
| Цыбуля на пяро | 6, 7, 8, 11, 12, 16, 17 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 6, 7, 8, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 28 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 2, 3, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Часнок | 1, 2, 3, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Радыска | 1, 2, 3, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 1, 2, 3, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 6, 7, 8, 22, 23, 26, 27 |
| Расліны, што ўюцца | 13, 14, 15, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Кветкі з насення | 6, 7, 8, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 20, 21 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 2, 3, 4, 5, 20, 21, 22, 23 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 6, 7, 8, 11, 12, 16, 17, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| **САКАВІК** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 3, 4, 6, 8, 9, 17, 18, 30, 31 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 5, 7, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 25, 26, 27 |
| Бахчавыя | 7, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Капуста ўсіх відаў | 7, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 7, 10, 11, 12, 15, 16, 19, 20 |
| Памідоры, баклажаны | 7, 10, 11, 12, 15, 16 |
| Перац салодкі | 7, 10, 11, 12, 15, 16 |
| Перац горкі | 7, 10, 11, 12, 13, 14, 19, 20 |
| Цыбуля на пяро | 7, 10, 11, 12, 15, 16 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 7, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 19, 20 |
| Бульба, тапінамбур | 1, 2, 5, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 2, 5, 22, 23, 24, 28, 29 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 2, 5, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Часнок | 1, 2, 5, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Радыска | 1, 2, 5, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 1, 2, 5, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 5, 22, 25, 26, 27 |
| Расліны, што ўюцца | 13, 14, 19, 20, 22, 23, 24, 25, 26, 27 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 22, 23, 24 |
| Кветкі з насення | 5, 7, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 19, 20 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 19, 20, 22 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 5, 7, 10, 11, 12, 15, 16, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| **КРАСАВІК** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 4, 5, 6, 13, 14, 15, 19, 27, 28 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 2, 3, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 18, 24, 25, 26 |
| Бахчавыя | 2, 3, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 18 |
| Капуста ўсіх відаў | 7, 8, 9, 10, 11, 12, 18 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 7, 8, 11, 12, 16, 17, 18 |
| Памідоры, баклажаны | 7, 8, 11, 12, 18 |
| Перац салодкі | 7, 8, 11, 12, 18 |
| Перац горкі | 7, 8, 9, 10, 16, 17, 18 |
| Цыбуля на пяро | 7, 8, 11, 12, 18 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 7, 8, 9, 10, 11, 12, 16, 17, 18 |
| Бульба, тапінамбур | 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Цыбуля на галоўкі | 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Часнок | 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Радыска | 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 2, 3, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| Сланечнік | 2, 3, 7, 8, 11, 12, 18, 20, 21, 29, 30 |
| Кукуруза | 2, 3, 7, 8, 11, 12, 18, 20, 21, 29, 30 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 2, 3, 18, 22, 23, 29, 30 |
| Расліны, што ўюцца | 9, 10, 16, 17, 18, 20, 21, 22, 23 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 2, 3, 18, 20, 21, 22, 23, 29, 30 |
| Кветкі з насення | 2, 3, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 16, 17, 29, 30 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 16, 17, 18 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 2, 3, 7, 8, 11, 12, 18, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 29, 30 |
| **МАЙ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 3, 5, 11, 12, 19, 24, 25, 29, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 6, 7, 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Бахчавыя | 6, 7, 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Капуста ўсіх відаў | 6, 7, 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 6, 7, 8, 9, 10, 13, 14, 15, 16, 17, 18 |
| Памідоры, баклажаны | 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Перац салодкі | 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Перац горкі | 6, 7, 13, 14, 15, 16, 17, 18 |
| Цыбуля на пяро | 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 6, 7, 8, 9, 10, 13, 14, 15, 16, 17, 18 |
| Бульба, тапінамбур | 1, 4, 20, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 4, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 4, 20, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| Часнок | 1, 4, 20, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| Радыска | 1, 4, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 1, 4, 20, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| Сланечнік | 1, 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Кукуруза | 1, 8, 9, 10, 15, 16, 17, 18 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 1, 15, 16, 20, 21, 22, 23, 26, 27, 28 |
| Расліны, што ўюцца | 13, 14, 15, 16, 17, 18, 20 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 1, 4, 15, 16, 20, 26, 27, 28, 31 |
| Кветкі з насення | 1, 6, 7, 8, 9, 10, 13, 14, 15, 16, 17, 18 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 2, 3, 6, 7, 13, 14, 15, 16 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 4, 8, 9, 10, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 31 |
| **ЧЭРВЕНЬ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 3, 7, 8, 17, 20, 21, 22, 25, 26, 27 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 4, 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Бахчавыя | 4, 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Капуста ўсіх відаў | 4, 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 5, 6, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15 |
| Памідоры, баклажаны | 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Перац салодкі | 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Перац горкі | 4, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15 |
| Цыбуля на пяро | 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 4, 5, 6, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Бульба, тапінамбур | 1, 2, 18, 19 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 1, 2, 18, 19, 23, 24, 28, 29, 30 |
| Цыбуля на галоўкі | 1, 2, 18, 19, 28, 29 |
| Часнок | 1, 2, 18, 19 |
| Радыска | 1, 2, 18, 19, 28, 29, 30 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 1, 2, 18, 19, 28, 29 |
| Расліны, што ўюцца | 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 1, 2, 23, 24, 28, 29 |
| Кветкі з насення | 4, 5, 6, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15 |
| **ЛІПЕНЬ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 4, 5, 17, 18, 19, 23, 24 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 3, 11, 12 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 3, 6, 7 |
| Цыбуля на пяро | 3, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 3, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 20, 21, 22, 30, 31 |
| Цыбуля на галоўкі | 20, 21, 22, 30, 31 |
| Радыска | 20, 21, 22, 30, 31 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 20, 21, 22, 30, 31 |
| Расліны, што ўюцца | 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 20, 21, 22, 30, 31 |
| Кветкі з насення | 3, 8, 9, 10, 13, 14 |
| **ЖНІВЕНЬ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 2, 14, 15, 19, 20, 28, 29, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 5, 6, 7, 8, 11, 12, 13 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 16, 17, 18, 21, 22, 23, 26, 27 |
| Радыска | 16, 17, 18, 21, 22, 23, 26, 27 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 16, 17, 18, 21, 22, 23, 26, 27 |
| Высадка чаранкоў для ўкаранення | 16, 17, 18 |
| Расліны, што ўюцца | 3, 4, 9, 10, 31 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 16, 17, 18, 21, 22, 23 |
| Кветкі з насення | 5, 6, 7, 8 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 14, 15, 24, 25 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 16, 17, 18, 21, 22, 23, 26, 27 |
| **ВЕРАСЕНЬ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 10, 11, 12, 14, 15, 16, 17, 25, 26 |
| СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ | |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 1, 2, 3, 4, 8, 9, 13, 29, 30 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 18, 19, 22, 23, 24 |
| Высадка чаранкоў для ўкаранення | 11, 12, 15, 16, 17, 23, 24 |
| Часнок | 18, 19, 22, 23, 24 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 1, 2, 18, 19, 22, 23, 24 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 1, 2, 10, 11, 12, 20, 21 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 4, 8, 9, 13, 18, 19, 29, 30 |
| **КАСТРЫЧНІК** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 4, 5, 8, 9, 17, 18, 19, 22, 23, 24, 31 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Цыбуля на пяро | 10, 11, 12, 15, 16 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 10, 11, 12, 15, 16, 20, 21 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 2, 3, 25, 26, 29, 30 |
| Часнок | 15, 16, 20, 21, 26, 27 |
| Высадка чаранкоў для ўкаранення | 3, 4, 10, 11, 26, 27 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 10, 11, 15, 16, 20, 21, 26, 27 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 7, 8, 9, 12, 13, 17, 18, 22, 23 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 10, 11, 15, 16, 26, 27 |
| **ЛІСТАПАД** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 4, 5, 9, 10, 12, 18, 19, 26 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Цыбуля на пяро | 1, 2, 3, 6, 7, 8, 11, 29, 30 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 1, 2, 3, 6, 7, 8, 11, 29, 30 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 16, 17, 22, 23, 24, 25 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, дайкон | 16, 17, 22, 23, 24, 25 |
| Высадка чаранкоў для ўкаранення | 6, 7, 8, 11, 22, 23, 27, 28 |
| Расліны, што ўюцца | 13, 14, 15, 24, 25, 27, 28 |
| Кветкі цыбульныя і клубневыя | 16, 17, 22, 23, 24, 25 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 9, 10, 18, 19, 22, 23 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 1, 2, 3, 6, 7, 8, 16, 17, 22, 23 |
| **СНЕЖАНЬ** | |
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 2, 6, 7, 12, 15, 16, 28, 29, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Цыбуля на пяро | 3, 4, 5, 8.9, 10, 27, 31 |
| Салата, базілік, кроп, шчаўе і іншыя зелянныя | 3, 4, 5, 8, 9, 10, 27, 31 |
| Морква, пастарнак, каранёвыя пятрушка і сельдэрэй | 13, 14, 20, 21, 22, 23 |
| Высадка чаранкоў для ўкаранення | 3, 4, 5, 8, 9, 10, 20, 21, 22, 23, 24, 25 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 11, 15, 16, 24, 25, 28, 29 |




Рэгіянальная газета. Rh.by
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
Маладзечна, ГЦ «Тройка», 5 паверх (Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518).
Тэл./факс: (8-0176) **53-78-04**;
(8-029) **573-28-47**, **676-84-20**.
regionnews@rh.by • reklama@rh.by
rh.by • рг.бел
Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт

